*Улада ў Беларусі народу не належыць. Вынікі сацыялагічнага апытання (стар. 2)*
*Банкі: рускія ідуць (стар. 2)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 36.610
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 21 траўня 1997 № 53 Кошт свабодны

## Мэта кансультацыяў – змены ў Канстытуцыю

Генадзь Карпенка, Васіль Новікаў і Мечыслаў Грыб будуць прадстаўляць Вярхоўны Савет 13-га склікання ў палітычных кансультацыях, якія спрабуе наладзіць Еўрапейскі Саюз у Беларусі паміж апазіцыяй і прэзідэнцкім бокам. Па звестках СВАБОДЫ, ад выканаўчай улады будуць дэлегіраваны міністр замежных справаў Іван Антановіч, намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч і кіраўнік інфармацыйнага упраўлення адміністрацыі Міхаіл Падгайны. Мэта кансультацыяў — абмеркаваць магчымыя змены ў Канстытуцыю.

Тройку сваіх прадстаўнікоў прэзідыум Вярхоўнага Савета 13-га склікання вызначыў у пятніцу, пасля таго, як ягоныя члены паасобку сустрэліся са спецыяльным прадстаўніком ЕС у Беларусі сп.Костам. Спікер ВС Сямён Шарэцкі, каментуючы сваю гутарку з Ары Коста, устрымаўся ад аптымістычных прагнозаў наконт перамоваў з прэзідэнцкім бокам. *«Спачатку трэба паспрабаваць хаця б стварыць рабочую групу, якая будзе здольная падрыхтаваць такія змены ў Канстытуцыю, якія б задаволілі ўсе бакі і сапраўды ўраўнаважылі розныя галіны ўлады, на чым якраз і настойвае Еўрапейскі Саюз»*, — паведаміў Шарэцкі. Па яго словах, прэзідыум зрабіў неабходны крок, вызначыўшы на перамовы сваіх прадстаўнікоў, цяпер чарга за прэзідэнцкім бокам. *«А што будзе далей, ці сапраўды пачнуцца перамовы — невядома. Час пакажа»*, — сказаў Шарэцкі.

Віцэ-спікер Васіль Новікаў настроены больш аптымістычна: *«Спадзяюся, што ў канцы траўня ці на пачатку чэрвеня мы сапраўды сядзем за стол кансультацыяў»*, — заявіў В.Новікаў карэспандэнту СВАБОДЫ. Ён упэўнены, што гэта можа не адбыцца толькі па віне прэзідэнцкага боку, але ў такім разе *«хай спадар Антановіч потым і тлумачыць місіі ЕС, чаму яны з Лукашэнкам абяцалі, але дагэтуль не пачалі «палітычны дыялог»*.



*Развітваючыся з місіяй Еўрасаюза, Іван Антановіч запэўніў дэлегацыю, што афіцыйны Мінск будзе выконваць дамоўленасці з ЕС.*

Міністр замежных справаў Іван Антановіч у мінулую пятніцу падчас сустрэчы з Ары Костам пацвердзіў згоду прэзідэнта на дыялог. Па звестках з МЗС, Антановіч сапраўды фігуруе ў ліку трох прадстаўнікоў прэзідэнцкага боку, якія распачнуць кансультацыі з апазіцыяй. Трох назіральнікаў са свайго боку назаве Еўрапейскі Саюз.

Што тычыцца Івана Пашкевіча і Міхаіла Падгайнага, то, па нашых дадзеных, гутарку з імі аб удзеле ў рабочай групе вёў Іван Антановіч і атрымаў ад іх згоду ўдзельнічаць у перамовах, але пакуль гэтыя кандыдатуры не зацверджаныя прэзідэнтам. Дарэчы, увогуле яшчэ не ясна, ці згодзіцца Лукашэнка распачаць палітычны дыялог на ўмовах Еўрапейскага Саюза. Чарговая спроба дамагчыся зменаў гэтых умоваў была прадпрынята прадстаўнікамі беларускіх уладаў падчас сустрэчы са спадаром Костам. У прыватнасці, яму было прапанавана, каб Вярхоўны Савет прадстаўлялі не тры апазіцыянеры, вылучаныя прэзідыумам, а толькі адзін апазіцыянер, плюс адзін дэпутат ад палаты прадстаўнікоў і адзін з тых дэпутатаў, хто пагадзіўся з лукашэнкаўскай канстытуцыяй, але не атрымаў месца ў новым парламенце. Вядома, што Ары Коста гэты варыянт адверг — на той падставе, што ЕС не прызнае новы беларускі парламент легітымным органам.

Карацей, афіцыйныя беларускія ўлады пакуль толькі на словах выказваюць гатоўнасць да палітычных кансультацыяў. *«Прэзідэнт пакуль не прыняў канчатковага рашэння па гэтай праблеме. Чакаецца, што ён заслухае даклад на гэтую тэму Івана Антановіча і ўжо тады вырашыць канчаткова»*, — заявіў у інтэрв'ю «Звяздзе» намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч.

Дарэчы, кансультацыі — толькі першы этап плана палітычнага ўрэгулявання ў нашай краіне, распрацаванага Еўрапейскім Саюзам. Па звестках з Савета Еўропы, далейшымі этапамі гэтага працэсу павінны стаць распрацоўка новага выбарчага закона, выбары на яго падставе новага парламента (які будзе прадстаўляць усё насельніцтва краіны, а не 46 працэнтаў, як цяпер) і ўнясенне новым парламентам адпаведных зменаў у Канстытуцыю 1994 года. Вядома, што Еўрапейскі Саюз прапанаваў беларускім кіраўнікам прайсці гэты шлях ужо ў бягучым годзе.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Цэны ў ВНУ падскочылі

**У вышэйшых навучальных ўстановах Беларусі падскочылі кошты платнага навучання.**

Як вядома, паводле ўказу прэзідэнта Лукашэнкі адменена ранейшая стаўка (не больш 50-ці мінімальных зарплат). Цяпер кошты платнага навучання ўстанаўлівае сама ВНУ *«ў адпаведнасці з фактычнымі затратамі»*.

Як паведамілі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, сёлета ўсе спецыяльнасці разбіты на тры групы, на якія ўстаноўлены розныя цэны. На дзённае навучанне кошты вагаюцца ад 600 да 2.000 долараў у год. У мінулым годзе за дзённую форму навучання кошты былі ніжэйшыя (ад 500 да 1.500 долараў у год). Асабліва прэстыжныя прафесіі (паліталогія, міжнароднае права, міжнародныя адносіны, менеджмент, правазнаўства, сусветная эканоміка) падаражэлі на 500 долараў. У Мінскім эканамічным універсітэце гадавы кошт навучання павялічыўся з 640 долараў (у мінулым годзе) да 730 долараў.

Некаторыя навучальныя ўстановы пакуль не зацвердзілі свае кошты. Дзённае навучанне ў Мінскім універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі плануюць падняць да 70 мінімальных зарплат, а ў Аграрна-тэхнічным універсітэце да 65 мінімальных. Як сказалі ў планава-эканамічным аддзеле міністэрства адукацыі, усе долары застануцца ў навучальнай установе. Частка іх ідзе на зарплату выкладчыкам. Дарэчы, цана навучання залежыць ад колькасці ў канкрэтнай ВНУ прафесараў, зарплата якіх вышэйшая.

Грошы за платнае навучанне ўносяцца студэнтамі два разы ў год (у верасні і лютым).

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Дзяржава пайшла на чорны рынак?

*У першыя дні гэтага тыдня курс наяўнага долара на чорным рынку Мінска імкліва падняўся*

Каціроўкі выраслі да 29.000 рублёў. Як кажуць прыватныя прадпрымальнікі, наяўная валюта практычна знікла з рынкаў на «Дынама» і ў Ждановічах.

Некаторыя валютчыкі-мянялы, што жывуць з нелегальнага абмену грошай, лічаць, што на чорны рынак увайшоў новы буйны пакупнік, які фактычна скупляе ўсю наяўную валюту. Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу такая дэталь: буйныя сумы замежнай валюты купляюцца за абсалютна новыя беларускія купюры, якія яшчэ не былі ў абарачэнні. З гэтага можна зрабіць выснову, што масавую скупку замежнай валюты на чорным рынку распачала дзяржава (напрыклад, у асобе Нацбанка), бо адкуль бяруцца і па чыім распараджэнні друкуюцца новыя грашовыя купюры — вядома.

На думку экспертаў-фінансістаў, такая сітуацыя цалкам рэальная. Абароты афіцыйнага біржавага рынка і паступленні валюты ў распараджэнне дзяржавы скарачаюцца. Нярэдка суб'екты гаспадарання ўсімі сіламі хаваюць валютную выручку ў замежных банках, каб пазбегнуць абавязковага продажу 50% валюты па афіцыйным курсе, які сёння ўжо на 10.000 рублёў меншы за рыначны.

**М.З.**

## Пільны Шэйман

**Людзі Шэймана заняліся былым шэфам мінскай міліцыі, якога лічаць «чалавекам Віннікавай».**

Спецыяльная камісія на чале з намеснікам дзяржсакратара Савета бяспекі Сяргеем Канцавенкам зацікавілася дэпартаментам бяспекі «Беларусбанка». Гэты дэпартамент узначальвае былы начальнік мінскай гарадской міліцыі Барыс Піліпенка. Ён сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што шэйманаўскія візіцёры, якія з'явіліся 3 траўня, маюць *«палітычныя мэты»*. Ніякіх канкрэтных абвінавачванняў пакуль не прад'яўлена, аднак двух намеснікаў Барыса Піліпенкі ўжо вымусілі звольніцца з працы *«па асабістым жаданні»*. Кажуць, што тое самае чакае і Б.Піліпенку.

Як сцвярджаюць дасведчаныя крыніцы, ведамства Шэймана хоча «вычысціць» дэпартамент бяспекі «Беларусбанка» ад людзей Віннікавай і пасадзіць туды сваіх.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Фронт маладзее

У гэтую суботу, 24 траўня, у штаб-кватэры БНФ пройдзе паседжанне аргкамітэта па стварэнні грамадскай арганізацыі «Малады фронт».

Удзельнічаць у паседжанні будуць прадстаўнікі маладзёжных арганізацый ад усіх раённых, гарадскіх, абласных арганізацый Беларускага народнага фронту — усяго каля 100 дэлегатаў. Як адзначыў сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык, апошнім часам у дзейнасці Фронту ўсё больш актыўны ўдзел бярэ моладзь. Гэта асабліва добра відаць на прыкладзе Мінска, дзе ў акцыях апазіцыі ўдзельнічалі тысячы маладых людзей.

Кіраўніцтва БНФ разлічвае, што стварэнне арганізацыі «Малады фронт» і наданне ёй самастойнага юрыдычнага статусу, а значыць — і большых правоў і магчымасцяў — рэзка актывізуе дзейнасць БНФ у цэлым.

*БелаПАН*

## Вясна зноў скончылася авіякатастрофай

Як паведаміла прэс-служба міністэрства абароны, у мінулы панядзелак у 12:48 на вайсковым аэрадроме ў Баранавічах пры выкананні палёту пацярпеў катастрофу самалёт Су-17. Ён упаў каля ўзлётна-пасадачнай паласы аэрадрома. 47-гадовы пілот, начальнік станцыі лётных выпрабаванняў авіярамонтнага завода падпалкоўнік Сяргей Паграбан, загінуў. Іншых ахвяр і разбурэнняў няма. Прычыны катастрофы расследуе спецыяльная камісія, якую ўзначальвае адзін з намеснікаў міністра абароны. Расшыфроўка параметраў «чорнай скрыні» пакуль не завершаная. Паводле папярэдняй інфармацыі, самалёт Су-17 выпрабоўвалі пасля рамонту. Падпалкоўнік Сяргей Паграбан, вайсковы лётчык першага класа, родам з Украіны. У яго засталіся жонка і два сыны.

У мінулым годзе, таксама ў другой палове траўня, разбіўся ваенны знішчальнік Су-27П, пілатуемы (таксама падпалкоўнікам, высокакласным спецыялістам) 37-гадовым Уладзімірам Карватам. Ягоны самалёт загарэўся ў палёце і разбіўся пад Баранавічамі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Будні салдат унутраных войскаў



*На здымку: сяржант-кантрактнік праводзіць заняткі з маладымі салдатамі тэрміновай службы. Здымак быў зроблены нашым фотакарэспандэнтам скрытна на тэрыторыі вайсковай часці, якая размяшчаецца на вуліцы Маякоўскага ў Мінску.*

ФЕСТЫВАЛЬ

# Васіль Быкаў на фестывалі жаночага кіно

**У беларускай сталіцы праходзіць IV Міжнародны фестываль жаночага кіно.**

Гледачы, якія ў мінулую суботу на афіцыйным адкрыцці фестываля хацелі пабачыць на свае ўласныя вочы «зорак» сусветнага кінематографа, былі крышку расчараваныя. Такое важкае мерапрыемства ўшанавалі сваёй увагай з вядомых «мира сего» толькі літоўскі мэтр Рэгімантас Адамайціс і галандскі рэжысёр анімацыйных фільмаў Герыт ван Дыйк. Яны і склалі экспертную аснову журы. Акрамя таго, што ўсе члены журы далі адпаведную клятву шчыра і аб'ектыўна ацэньваць сваіх калег-жанчын, іх яшчэ і справакавалі паабяцаць, што яны будуць адлічваць у фонд фестываля адну дзесятую частку кожнага свайго заробку і ганарара.

Сцэнарый афіцыйнага адкрыцця прэтэндаваў на арыгінальнасць. Але гэтага, на жаль, не зразумелі некаторыя прысутныя аматары кіно. Многія з іх проста пакідалі залу. Па нашай інфармацыі, актрыса Тэатра юнага гледача, якая вяла цырымонію адкрыцця, упершыню ўбачыла тэкст сцэнарыя за дзесяць хвілін да пачатку адкрыцця. Гледачам таксама не паказалі заяўлены ў праграме фільм расійскага рэжысёра Алены Райскай «*President and* его женщина» з Аленай Сафонавай у галоўнай ролі.



*Адзін з галоўных спонсараў фестываля жаночага кіно італьянец Джузепе з горада Брындызі на мінулым кінафоруме ў Мінску два гады таму падарыў студыі «Таццяна» некалькі скрыняў італьянскага віна. Беларускія рэжысёркі дзякуюць.*

Па словах члена аргкамітэта фестываля Браніславы Лобан, арганізатары засталіся незадаволеныя яго афіцыйным адкрыццём. Але яны спадзяюцца, што выправяцца перад гледачамі паказам цікавых конкурсных стужак, а таксама рэтраспектывай фільмаў беларускай рэжысёркі Ларысы Шапіцька. Заўтра, у чацвер, у кінатэатры «Кастрычнік» адбудзецца і творчая сустрэча з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым. Ягоная аповесць «Сотнікаў» лягла ў аснову стужкі Л.Шапіцька «Узыходжанне». Пачатак сустрэчы ў 18:00, у ёй возьме ўдзел таксама артыст Барыс Плотнікаў, які іграў у гэтым фільме.

**Марына РАССАФОНАВА**

## Галодныя школьнікі

**Толькі 55% дзяцей у школах у Беларусі атрымліваюць гарачае харчаванне.**

Пра гэта ішла гаворка на калегіі міністэрства гандлю. Больш за ўсіх шанцуе дзецям у Гомельскай вобласці — дзякуючы «чарнобыльскаму» артыкулу дзяржаўнага бюджэту там гарачыя сняданні і абеды маюць 90% дзяцей. А вось у Мінску з'есці што-небудзь гарачае ў школе могуць толькі 30% навучэнцаў.

Спадзявацца на паляпшэнне сітуацыі не даводзіцца: запазычанасць органаў адукацыі за школьнае харчаванне склала ў красавіку 25,6 млрд. рублёў. Разам з тым праверка, праведзеная міністэрствам гандлю, выявіла, што ў многіх школах порцыі няпоўныя: гэта значыць, што несумленныя работнікі грамадскага харчавання папросту абкрадваюць дзяцей.

**Ян ГАЛЕВІЧ**

## Родная дзяржава – эксплуататар

**Колькасць неплацежаздольных калгасаў і саўгасаў у Беларусі складае амаль 500 гаспадарак. На думку міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава, вінаватая ў гэтым *«бязлітасная эксплуатацыя селяніна з боку дзяржавы»*.**

В.Лявонаў паведаміў журналістам, што фінансавы стан гаспадарак стабільна пагаршаецца на працягу апошніх двух гадоў. Звязана гэта, на думку міністра, як з нізкім узроўнем эфектыўнасці саміх гаспадарак, так і з тым, што *«дзяржава забрала ў сялян у свой час усё, што можна было забраць»*.

Міністр таксама паведаміў, што аб'ём продажу сельскагаспадарчай прадукцыі ў гэтым годзе чакаецца на суму каля 50 трлн. рублёў, а затраты складуць амаль 80 трлн. Іншымі словамі, выручка ад продажу калгасамі і саўгасамі свайго плёну пакрые затраты толькі на 65 працэнтаў.

Такой складанай сітуацыі, падкрэсліў В.Лявонаў, яшчэ ніколі не было. Міністр заявіў, што калі б сёння беларускае малако прадавалася не па восем цэнтаў за літр, а па цэнах Германіі або Польшчы, то сельская гаспадарка мела б у гэтым годзе даход толькі на малацэ ў суме 3 трлн. рублёў. Заробак селяніна ў Беларусі сёння ўдвая ніжэйшы, чым у рабочага прамысловасці, а ў некаторых гаспадарках механізатары атрымалі толькі па 100 тысяч рублёў у месяц.

Сацыяльная стабільнасць у Мінску і нізкі ўзровень цэнаў падтрымліваецца сёння, па словах міністра, *«за кошт бязлітаснай эксплуатацыі селяніна»*. Як лічыць кіраўнік сельскагаспадарчага ведамства, грамадская думка пакуль не гатовая да таго, каб зрабіць зямлю таварам. Хаця, як лічыць сам В.Лявонаў, было б правільней аддаць палову ўсёй зямлі сялянам ва ўласнасць, а другой — няхай бы распараджалася дзяржава, здаючы яе ў арэнду.

*БелаПАН*

## Вячэрні Мінск

У Мінску ў чацвер і пятніцу будуць «масавыя гулянні» працўнікаў саюза з Расіяй. Публіка будзе збірацца каля Дома афіцэраў у 19 гадзінаў. Пра гэта мы даведаліся з улётак, расклееных па Мінску.

**Б.П.**

## Улада ў Беларусі народу не належыць

Паводле вынікаў сацыялагічнага апытання, праведзенага Беларускім інстытутам інфармацыі і прагнозу, толькі 5% жыхароў краіны лічаць, што ўлада ў Рэспубліцы Беларусь належыць народу.

Палова апытаных упэўненыя, што ўлада належыць прэзідэнту. Наступным пунктам у рэйтынгу трымальнікаў улады значацца карпумпаваныя структуры (мафія) — 16%. На тое, што ўлада належыць ураду (Савету міністраў), паказалі 7% апытаных; 4% адзначылі прадпрымальнікаў, бізнесменаў і яшчэ 3% — Нацыянальны сход (парламент) краіны.

Рэспандэнтам прапаноўвалася таксама назваць дзяржаўныя, палітычныя і грамадскія структуры (не больш чым тры), якім яны больш за ўсё давяраюць. Як паказалі вынікі апытання, найбольшым даверам карыстаецца прэзідэнт (44%). 18% рэспандэнтаў давяраюць войску і 13% — Канстытуцыйнаму суду. Даверам карыстаюцца таксама сродкі масавай інфармацыі (12%) і апазіцыя (9%).

*БелаПАН*

## Віцэ-прэм'ер загадаў эканоміць валюту

**Віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун наведаў нядаўна ў Лідзе завод сельгасмашын. Яго абурыла, што гумовыя колы для сваіх сеялак лідчукі купляюць у Польшчы, а не на Бабруйскім шынным камбінаце.**

Віцэ-прэм'еру патлумачылі, што польскія — больш надзейныя, і каштуюць кожнае на 20 долараў танней за бабруйскія. Аднак гэтыя аргументы не пераканалі сп.Гаркуна, ён сказаў, што валюту трэба ашчаджаць, а колы купляць у Бабруйску, маўляў, хай горшыя і даражэйшыя, затое — айчынныя. Гэта, мабыць, і ёсць «рынкавы сацыялізм», пабудовай якога займаецца сёння ўрад.

**Сяргей ХМАРА**

## Суд апраўдаў актывістаў апазіцыі

**Ленінскі райсуд Магілёва нечакана для ўсіх апраўдаў двух лідэраў магілёўскіх дэмакратычных арганізацый.**

Лідэра мясцовай арганізацыі Свабоднага прафсаюза і старшыню гарадской філіі БНФ Сяргея Абадоўскага і Уладзіміра Цурпанава судзіла старшыня суда Ніна Гаўрылюк. Чарговы суд над імі стаў вынікам першамайскага мітынгу ў Магілёве. СВАБОДА паведамляла чытачам, як на афіцыйны мітынг прыйшлі людзі з бел-чырвона-белымі сцягамі, што страшэнна не спадабалася мэру абласнога цэнтра Д.Сіціцкаму і магілёўскаму губернатару А.Кулічкову. Пасля мітынгу адбылося антыпрэзідэнцкае шэсце.

Міліцыя абвінаваціла Абадоўскага і Цурпанава ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу і абразах на адрас кіраўніцтва вобласці. Аднак у якасці доказу да пратакола быў далучаны фотаздымак, на якім не было ніводнага з абвінавачаных. На судовым паседжанні міліцыянты не здолелі нічога растлумачыць і нават не пазналі Цурпанава. Суд прыняў апраўдальнае рашэнне.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Нямецкіх студэнтаў зацікавіла, як жыве Гродна

**Гродна наведала група студэнтаў Свабоднага Берлінскага універсітэта на чале з доктарам Ёганам Шлоцам. У грамадскім аб'яднанні «Ратуша» яны ўдзельнічалі ў дыскусіі з прадстаўнікамі недзяржаўных арганізацый і незалежных *mass media*.**

Нямецкіх студэнтаў цікавіла, чаму беларускі народ не адрэагаваў на роспуск парламента, як разумеюць дэмакратыю розныя слаі грамадства, а таксама як мясцовыя ўлады адносяцца да незалежных арганізацый у Гродне. Старшыня каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва» С.Домаш расказаў, як улады забараняюць мітынгі, праследуюць кіраўнікоў дэмакратычных партый. Немцы здзівіліся рэакцыі гродзенскіх уладаў, убачыўшы на фатаграфіях, што мітынгоўцы паводзілі сябе вельмі мірна. Па іхніх словах, у Берліне бывае зусім інакш. Але ж дзе той Берлін...

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Палова – банкруты

**У Свіслацкім раёне ў красавіку 52% прадпрыемстваў і арганізацый з'яўляліся стратнымі.**

У канцы месяца 16 прадпрыемстваў і калгасаў не выплацілі заробкі сваім працаўнікам — агулам каля трох мільярдаў рублёў. Сярэдні заробак у раёне складае ўсяго 1 млн. 57 тысяч рублёў. Прычым гэтая сума нават зменшылася, узімку яна была вышэйшай. Не кажучы ўжо пра тое, што сярэдні заробак у Свіслацкім раёне меншы, чым зацверджаны ў Гродзенскай вобласці мінімальны спажывецкі бюджэт.

**Алесь КАВАЛЕВІЧ**



## Горацкая акадэмія будзе вучыць цяпер па-новаму

**Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія, што ў Горках Магілёўскай вобласці, перамагла ў конкурсе адукацыйных праектаў і атрымае грант у 2 мільёны экю (каля 2,5 млн. долараў).**

Конкурс праектаў праводзіўся сярод ВНУ Беларусі ў рамках праграмы дапамогі Еўрасаюза Новым Незалежным Краінам *TACIS*. Рэктар сельгасакадэміі Аляксандр Цыганоў паведаміў, што рэалізацыя праекта дазволіць стварыць сістэму павышэння кваліфікацыі ўсіх спецыялістаў сельскагаспадарчай вытворчасці. Паводле словаў рэктара, кваліфікацыя любога спецыяліста прыкладна праз 5 год пачынае аб'ектыўна зніжацца: навука і тэхналогіі хутка ідуць наперад. Таму неабходна перыядычна пашыраць і ўдасканальваць свае веды, што і стане магчымым у выніку рэалізацыі праекта.

Тэрмін дзеяння гранта — 3 гады. За гэты час павінна быць наладжаная сістэма дыферэнцыяванага навучання па схеме «вучылішча-коледж-акадэмія». Грант дазволіць абсталяваць самым сучасным абсталяваннем кабінеты і лабараторыі акадэміі, камп'ютэрызаваць навучальны працэс. Грошы будуць накіраваныя і на набыццё спецыяльнай літаратуры, і на стварэнне лінгафоннага кабінета для навучання замежным мовам. У рамках гранта прафінансуюцца замежныя стажыроўкі навучэнцаў і выкладчыкаў, а таксама лекцыі заходніх спецыялістаў у акадэміі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

БАНКІ

## Рускія ідуць

На базе «МінскКомплексБанка» ствараецца новая банкаўская структура з удзелам расійскага капіталу.

Сапраўдныя акулы расійскага фінансавага рынку «ОНЭКСИМ-Банк» и АКБ «Международная финансовая компания» набудуць 49% акцый новага сумеснага банка, адпаведныя дакументы ўжо знаходзяцца на рэгістрацыі ў Нацыянальным банку Беларусі. «ОНЭКСИМБанк» будзе трымаць 33% акцый, АКБ «МФК» — 16%. Сярод беларускіх акцыянераў (агульная доля 51%) плануецца скарачэнне долі прыватных прадпрыемстваў і павелічэнне долі дзяржаўных структур.

Увогуле, «МінскКомплексБанк» ужо даволі даўно пачаў пошук інвестара. І сённяшняя сітуацыя паказвае, што расійскі капітал праяўляе істотную зацікаўленасць беларускім фінансавым рынкам. Прычым гэтая ўвага арыентаваная не толькі на паляпшэнне ўзаемаразлікаў паміж краінамі (гэта з'яўляецца асноўным зместам расійска-балцкага банкаўскага супрацоўніцтва), але і на цесныя кантакты з беларускімі прадпрыемствамі, якія расіяне хацелі б уключыць у склад сваіх фінансава-прамысловых груп.

Як вядома, «ОНЭКСИМБанк» і АКБ «МФК» з'яўляюцца фінансавымі цэнтрамі адной з самых магутных расійскіх ФПГ (група «Интеррос»). Сярод асноўных акцыянераў «ОНЭКСИМБанка» — дзяржаўная кампанія «Росвооружение». Эксперты лічаць цалкам верагодным, што частку акцый новага беларуска-расійскага банка набудуць прадпрыемствы айчыннага ваенна-прамысловага комплексу, у прыватнасці НПА «Агат», аб'яднанне «Інтэграл» і інш. З другога боку, прадпрыемствы беларускага ВПК будуць займаць немалаважнае месца ў сферы інтарэсаў новага банка.

**Алесь САДОЎСКІ**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## «Жыццё і смерць Надзеі» – гэта пра маю сястрычку

Добры дзень, паважаная рэдакцыя СВАБОДЫ!

Піша вам Клімовіч Каця. Я жыву ў г.п.Воранава. Пасёлак наш знаходзіцца ў прыгранічнай зоне. Мне 10 гадоў. Вучуся ў 4 класе. Вучуся добра. Мне вельмі падабаецца ваша газета. Мы стараемся яе выпісваць, але не заўсёды ёсць грошы, каб на яе падпісацца. Тады купляем у кіёску. 14 лютага 1997 года на старонках вашай газеты быў надрукаваны артыкул «Жыццё і смерць Надзеі» з фотаздымкамі. Гэта артыкул пра маю малодшую сястрычку, якая пасля доўгіх пакут памерла ў анка-гематалагічным цэнтры ў Мінску, дзе яна пакутвала цэлы год. Я часта ўспамінаю, як мы з мамай і сястрычкай Надзеяй прысутнічалі на сустрэчы з журналістамі СВАБОДЫ, калі быў розыгрыш прызоў сярод падпісчыкаў у Доме літаратара ў 1996 годзе. Мне вельмі хацелася выйграць які-небудзь падарунак або падпісны квіток на газету СВАБОДА. Але гэтага не здарылася, шчасце нам не ўсміхнулася. На першае паўгоддзе газету мы не змаглі выпісаць, бо ўсе грошы аддалі, каб зрабіць помнік для нашай сястрычкі. Але газету мы ўсё роўна купляем, бо яна нам усім падабаецца.


ПАРАЛЕЛІ СВАБОДА
Жыццё і смерць Надзеі

Паважаная рэдакцыя! У мяне да вас вялікая просьба. 14 чэрвеня ў мяне дзень нараджэння. І мне хацелася б, каб ваша газета дапамагла (зрабіла падарунак). Я многа чула, чытала, але ніколі не была ў лагеры адпачынку «Зубраня», які знаходзіцца на возеры Нарач. Мая мара — адпачыць у гэтым лагеры. Бацькі набыць мне пуцёўку не могуць, бо няма грошай. Сям'я наша жыве бедна. Дык вось я прашу, каб вы мне дапамаглі набыць на чэрвень пуцёўку ў «Зубраня». А разам з пуцёўкай падарыць мне падпісны квіток на вашу газету да канца года. Сардэчна дзякую!

**Каця КЛІМОВІЧ,**
*г.п.Воранава Гродзенскай вобласці*

**АД РЭДАКЦЫІ.** ***Безумоўна, рэдакцыя падорыць Каці і яе сям'і падпіску на СВАБОДУ — нашыя фінансавыя магчымасці гэта дазваляюць. А што датычыць пуцёўкі ў лагер «Зубраня» — тут мы мусім шукаць спонсара. Магчыма, сярод нашых чытачоў знойдуцца людзі, гатовыя фінансава дапамагчы 10-гадовай дзяўчынцы ажыццявіць яе мару — званіце ў рэдакцыю па тэл. 36-24-41, 36-89-40.***

# Особый славянский путь в никуда

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



В последнее время Лукашенко неоднократно удивлял сограждан своими заявлениями о том, что он не намерен поступаться суверенитетом Беларуси. В телебеседе с руководителем РТР Н.Сванидзе белорусский диктатор наконец пояснил, что он имеет в виду. Лукашенко подчеркнул, что лично он готов к объединению с Россией в единое государство, однако к этому не готова Россия. Но при этом Лукашенко хотел бы сохранить за Беларусью такой же «суверенитет», каким она обладала в составе Советского Союза (он напомнил, что БССР была даже членом ООН).

Походя обратим внимание на стилистику фразы: «**Я** готов к единому государству! Не готова **Россия**!» (как тут не вспомнить изречение французского короля «Государство — это я!»). Главное же — в том, что все встало на свои места. Лукашенко готов влить Беларусь в Россию с сохранением декларативного псевдосуверенитета, какой был у союзных республик. И, разумеется, с возможностью выхода центрового «интегратора» на российское политическое поле.

В ближайшее время этого не произойдет. Недаром один из ведущих российских политиков генерал А.Лебедь назвал проект устава союза *«куцым протоколом о намерениях»*. По тексту в изобилии рассыпаны выражения типа «перспектива развития Союза направлена на последовательное продвижение», «согласование позиций путем консультаций и обмена информацией», «государства-учредители создают условия» и т.п. На практике все это ни к чему не обязывает. Другое дело, если к власти в России придут люди, готовые наполнить эти пустые формулировки конкретным содержанием — вот тогда устав действительно может стать вещью чрезвычайно опасной.

В настоящее же время в Москве правят бал люди, которые отчетливо представляют экономические и политические издержки объединения; политические связаны не столько с негативной реакцией Запада, сколько с тем, какой импульс даст объединение коммунистам и национал-патриотам. Есть разные мнения насчет того, насколько велика вероятность прихода Лукашенко к власти в объединенном государстве, и чем это чревато не только для России, но и для всего мира, — однако это не тот случай, когда правильность мнений стоит проверять опытным путем.

О тех же самых издержках говорят также многие белорусские политики и экономисты — последние с цифрами и фактами доказывают невыгодность объединения для Беларуси. Получается, что ни России, ни Беларуси интеграция пользы не принесет. Если исключить, конечно, шкурные интересы отдельных лиц. На пресс-конференции руководства Объединенной гражданской партии депутат А.Лебедько обратил внимание на то, что в результате прошлогоднего договора между Беларусью и Россией *«огромную прибыль получили «Торгэксло», Фонд Эсамбаева и другие структуры, пользующиеся покровительством президента. После подписания устава союза, без сомнения, будет то же самое: близкие к президенту люди получат конкретный денежный выигрыш»*. В отличие от этих людей (такие «выигравшие», безусловно, найдутся и в России) — обе наши страны от объединения только проиграют. Вот поэтому белорусский режим и старается не переводить вопрос интеграции в практическую плоскость. Сам Лукашенко подчеркнул вынужденность того, что ему приходится говорить о каких-то экономических основаниях интеграции — потому-то эти «основания» и не выдерживают критики с точки зрения здравого смысла. Но, собственно, на здравый смысл упор и не делается.

Официозная пресса почти не пытается приводить рациональных аргументов в пользу интеграции — зато полным-полна утверждениями по принципу «Этого не может быть, потому что не может быть никогда» (только, в отличие от чеховского помещика, утверждения даются с позитивным знаком — что-то вроде «Это должно быть, потому что должно быть всегда»). Интеграция нужна, потому что она нужна — и конец делу. «Советская Белоруссия» даже завела специальную рубрику: «Беларусь — Россия: нам не жить друг без друга». Ну вот не жить — и все тут. А под этой рубрикой — «воссоединение братских народов», «хотим жить единой семьей», «мы вместе воевали в едином строю», «перед лицом расширения НАТО создать единое оборонное пространство» (видимо, *NATO* для того и расширяется, чтобы создать угрозу для Беларуси), «общность восточнославянских корней», «единое государство в недалеком прошлом». И далее в том же духе.

Прочие государственные СМИ также не прелагают ничего иного. «Республика»: «Стремление братских народов к единству». «Хотя многое в сегодняшней жизни не устраивает, но с Россией надо объединяться». «Союз славянских народов — это то, к чему стремятся все славяне». «Надо преодолеть последствия распада СССР». И т.д.

«С Россией будет лучше — это наши братья, мы вместе воевали». «Нам судьбой определено жить вместе». «Братьям-славянам было бы непростительно упустить шанс». «Единение будет во благо славянских народов» («Народная газета»). Это же издание как бы подытожило всю официозную аргументацию, процитировав заявление «Славянского собора»: «Вокруг святого дела воссоединения народов Беларуси и Российской Федерации антинациональными силами устроен постыдный торг. В прозападных СМИ и, к сожалению, в ряде государственных изданий всевозможные политиканы подсчитывают, как на базаре, выгоды... Светлое стремление нашего народа жить в единстве они пытаются сделать разменной монетой в своих корыстных интересах».

Понятно — у них «светлое стремление», а им толкуют про какие-то национальные интересы, экономику и прочую прозу бытия. Сказано же: воссоединение — это дело, оказывается, святое — неужели не понятно? Так что никакие разумные доводы против него на дух не принимаются.

Подобные методы отстаивания единения Беларуси и России основаны не на доказательствах, а на инерции. Столько лет, десятки, жили в одном государстве с Россией, привыкли уже — ну так и давайте объединяться по новой. Время от времени, правда, под эту инерцию пытаются подложить глобальную философскую базу. В белорусской официозной прессе нередко звучит мотив: мол, Россия пускай себе и материально бедная страна, но зато она «несет миру высокую духовность».

Хотелось бы узнать: где именно в России я могу видеть воплощения высокой духовности? Российские интеллигенты вопиют как раз о противоположном — об ужасающей бездуховности, о криминогенности, пронизавшей все общество, о повсеместном хамстве и пьянстве, о ненависти к ближним. Газеты полнятся рассказами о потрясающих по жестокости преступлениях, причем от взрослых не отстают и дети (достаточно вспомнить, как в родной деревне Ю.Гагарина малолетки без всяких причин, из чистого любопытства зарубили топором родного отца, или как школьники, зарабатывающие мытьем машин, облили бензином и заживо сожгли ровесника-конкурента — преступникам было от 12 до 14 лет!). Разговоры о том, что в России *«пьянство, буйство, лень повсюду, лишь на злое прыть»* (эти строки, написанные в XIX в., не утратили актуальность и по сей день), давно уже стали банальными. Но ведь потому-то это и банальность, что подобные явления слишком хорошо известны и повсеместно распространены. Надо признать, что Европе все эти пороки если и свойственны, то в несравнимо меньшей степени. Эта разница проявляется даже на криминальном уровне — не случайно в цивилизованных странах отмечают дикую жестокость российских преступных группировок как особенность, отличающую их от местных уголовников.

Некоторые пытаются утверждать, что все эти напасти свалились только после распада Советского Союза. Напомним, что Советский Союз занимал первое место в мире по немотивированной преступности (это когда убивают не с целью, например, забрать деньги, что хотя бы можно понять — а просто потому, что рожа не понравилась). Это я привел доступный и выпуклый, но всего лишь частный пример. А вообще никакая власть ни в одном государстве мира не уничтожила столько своих сограждан, сколько большевистский режим. После тех фактов, которые в годы перестройки стали общеизвестными, всерьез говорить о «высокой духовности» Советского Союза просто неприлично.

Ну, ладно — жизнь тяжелая, «среда заела» и всякое такое. Может быть, высокую духовность источают те, кто не страдает от безысходности? Предпринимателей, скажем? Думаю, здесь нет нужды в особых комментариях. В среде российских предпринимателей царят, пожалуй, более звериные нравы, чем в любом другом социальном слое, а их нечистоплотность и склонность к обману стали притчей во языцех во всем мире.

Тогда, наверное, властные структуры России являют собой образец высокой духовности для своих сограждан? Эта фраза тоже, кроме смеха, ничего вызвать не может. В политических сферах цивилизованных стран тоже не всегда все чисто и гладко, но там существуют достаточно высокие стандарты, которым любой политический деятель должен соответствовать. Помнится, американский сенатор Г.Харт был вынужден снять свою кандидатуру с президентских выборов, поскольку стало известно, что много лет назад, когда он уже был женат, у него была любовница. Я, положим, не считаю, что личная жизнь должна быть предметом политических разборок — но американцы считают иначе: раз хочешь стать президентом — изволь быть безупречным во всех отношениях. Так вот, согласно этим высоким стандартам, в любой цивилизованной стране политик однозначно поставил бы крест на собственной карьере, если бы допустил десятую долю того, на что в России (как и в Беларуси) просто не обращают внимания.

Интеллигенция? Если говорить о таковой в широком понимании этого слова (т.е. когда интеллигентом называют любого человека с высшим образованием), то в массе своей с «высокой духовностью» там тоже напряженка, выраженная прежде всего в приспособленчестве. Да и вообще категория людей, именуемая «интеллигенцией», куда больше озабочена собственными бытовыми проблемами, чем «высокой духовностью».

Остается очень тонкий слой истинной, в первую очередь творческой, интеллигенции. Здесь, правда, тоже могут быть оговорки, — но в принципе спорить не стану. Однако, во-первых, такой тонкий слой имеется и в европейских странах, и не думаю, чтобы его концентрация на душу населения была в России выше, — а во-вторых, если даже допустить, что это так, то это с успехом компенсируется невиданной для Европы дикой бездуховностью в остальных социальных группах России.

Под каким микроскопом можно узреть эту самую «высокую духовность России»? И, главное, каким же это образом предполагается «нести духовность миру»? Разве что придется напомнить, что, несмотря на очевидные провалы вооруженных сил России, показавшие, что ее армия в значительной степени является колоссом на глиняных ногах, Россия все-таки — ядерная держава. И, если к власти придут соответствующие политические силы, Россия еще сможет поднапрячься и врезать по остальному растленному человечеству такой «духовностью», что мало не покажется.

В одном ряду с мифом о «высокой духовности» стоит миф об «особом славянском пути», по которому должна двигаться Россия, а вместе с ней и Беларусь. Собственно, строго говоря, путь каждой страны действительно должен быть особым. Ведь и Запад не представляет собой однородного целого. Франция не похожа на Англию, Англия — на Германию, Германия — на Соединенные Штаты и т.д. У всех у них — свой особый путь. Но ведь никто и не предлагает, чтобы Россия или Беларусь взяла за образец какую-то европейскую страну, ориентировалась только на нее и копировала ее путь. Однако есть вещи, которые, несмотря на непохожесть цивилизованных государств друг на друга, являются для них общими. Свобода личности, например, приоритет прав человека, демократия как образ правления (причем в ее современном понимании, которое предусматривает не только власть большинства, но и неукоснительное соблюдение прав меньшинства), свободная рыночная экономика и т.д. Эти вещи должны стать общими и для России, и для Беларуси. Когда же речь ведется об «особости», которая эти вещи игнорирует, то это — путь в никуда.

Еще в дореволюционной России путешественники из Европы постоянно отмечали пренебрежение к закону, к свободе личности, к индивидуальности, но зато имеющиеся в избытке почтение к начальству, к праву силы, к власти, чинопочитание и т.п. М.Булгаков устами персонажа «Собачьего сердца» профессора Преображенского назвал своих соотечественников *«людьми, которые, отстав в развитии от европейцев лет на 200, до сих пор еще не совсем уверенно застегивают свои собственные штаны»*. И если эту отсталость называют «особым славянским путем», она не перестает от этого быть отсталостью, несмотря на то, что некоторые люди пытаются сделать ее предметом гордости, вместо того, чтобы преодолевать ее.

Для государства отсталость — это как для человека болезнь. *«Вся история страны — история болезни»*, — пел В.Высоцкий. Вспоминаю, как в смешном рассказе В.Драгунского дети, собравшись во дворе, хвастают друг перед другом своими болезнями. Однако когда взрослые дяди и тети, претендующие на то, чтобы определять государственную политику, начинают, вместо того чтобы лечить болезнь, ее культивировать (называя болезнь громкими словосочетаниями типа «особый славянский путь») — это уже не смешно.

По какому пути пойдет Россия — на это мы, граждане Беларуси, влиять не можем. Но вот что касается нашей страны — то ей надо двигаться в Европу. Как это делают Чехия и Польша — каждая своим особым путем, и пути эти тоже, естественно, славянские, — однако лишенные тех «особенностей», на которых настаивают российские национал-патриоты.

Казалось бы, сейчас, когда рухнул «железный занавес», и граждане нашей страны знают о жизненном уровне европейских стран, о политической и правовой культуре, о культуре человеческих отношений и других подобных вещах в Европе, можно было бы сделать выводы о том, с кем лучше интегрироваться (т.е. объединяться) — с Европой или с Россией. Кроме всего прочего, Европа, в отличие от России, не является единым государством, и вхождение в европейские структуры никак не ущемляет суверенитета Беларуси — совсем иное дело вхождение в состав России (другой страны). Однако многие, особенно люди пожилые, продолжают по-прежнему ориентироваться на Россию — в силу той же инерции, привычности такой ориентации, да и неверия в то, что в Беларуси когда-нибудь могут быть те же условия жизни, что в других европейских странах.

К сожалению, эта инерция свойственна и определенной части оппозиции. Я говорю даже не об ошибочной тактике, исходя из которой некоторые сторонники независимости пытаются представить себя одновременно и сторонниками «интеграции с Россией». Но достаточно посмотреть на названия некоторых политических объединений. Понятно, когда белорусские жириновцы берут для своей партии название, аналогичное российскому — они сторонники империи. Но когда то же самое делают демократы (или именующие себя таковыми) — это уже совершенно лишнее. Недавно в Беларуси существовало Движение демократических реформ (такое же было и в России). Есть партия Всебелорусского единства и согласия — название слизано с российского; сходство даже в том, что сокращенное наименование белорусской партии, на манер российского, само по себе что-то означает (в России — ПРЕС, в Беларуси — ВЕС). Недавно появилось белорусское движение «Яблоко», название которого вообще является нонсенсом, ибо в России «Яблоко» — это аббревиатура, составленная из первых букв фамилий лидеров этого движения; если же белорусские «яблочники» имеют в виду просто фрукт, то такое наименование подошло бы для общества садоводов-любителей, а использовать его для политического движения — еще абсурднее, чем аббревиатуру. Время от времени оппозиция использует лозунг "Наш дом — Беларусь" (так даже предполагалось назвать широкое демократическое движение) — явная калька с названия партии Черномырдина. Неужели нельзя придумать что-то свое? Едва ли все это способствует осознанию согражданами того, что Беларусь является независимым государством. Если названия даже оппозиционных объединений указывают на то, что они являются филиалами российских — о чем тогда говорить.

Отрадно, что значительная часть молодежи, лишенная зашоренности старшего поколения, настроена по-другому. Полюбившиеся минской молодежи лозунги «Беларусь — в Европу, Лукашенко — в ж...!», «Беларусь — у *NATO*, Лукаша — за краты!» предельно четко вычерчивают маршруты путей, по одному из которых следует отправиться нашей стране, а по другому — отправить главного белорусского адепта «особого славянского пути».

*Замест анекдота*

## Лукашэнка – лаўрэат літаратурнай прэміі

Камісія па прысуджэнні Міжнароднай прэміі імя Міхаіла Шолахава, якую ўзначальвае рускі пісьменнік Юрый Бондараў, вырашыла аддаць Шолахаўскую прэмію 1997 года Аляксандру Лукашэнку.

Як паведамляе БелТА, званне лаўрэата Лукашэнка атрымаў *«за большой вклад в политическую публицистику, борющуюся за социальную справедливость и тесное единение славянских народов Беларуси и России».*

## Цырк і рэкет

**У Гродне паспяхова скончыў гастролі пражскі вандроўны цырк. Аднак цікавасць да чэшскіх майстроў арэны з'явілася не толькі ў гледачоў.**

Перад тым, як прыехаць у Гродна, чэхі выступілі ў Кобрыне, Слоніме і Ваўкавыску. Паглядзець на дзікабраза, камерунскіх козаў, «сапраўднага чэшскага ваўка» і іншых жывёл у Гродне прыходзіла шмат публікі. Аднак цыркам «зацікавіліся» і рэкеціры. Дырэктар трупы мусіў звярнуцца ў міліцыю, і да канца гастроляў ахову цырка забяспечвалі гродзенскія хлопцы ў пагонах.

**Віктар РУДЭНКА**

## «Ракеты» на Прыпяці

**Пасля пяці гадоў перапынку па Прыпяці зноў будуць хадзіць хуткасныя караблі на падводных крылах тыпу «Палессе».**

Гэтыя караблі, якія людзі звычайна называюць «ракетамі», даставяць пасажыраў з Мазыра ў Нароўлю, Тураў і Пінск.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Мода должна быть прежде всего красивой



*Даже если эти модели и авангардны, вряд ли они станут модными.*

В прошлое воскресенье, 18 мая, Дворец культуры Белсовпрофа в Минске был осчастливлен представлением, которому дали название Первый фестиваль альтернативной моды «Персонификация». Однак почтенный Дворец оказался явно не подготовленным к этому мероприятию.

Бабушки-билетерши, не привыкшие работать с авангардной молодежью, постоянно вступали в конфликт со зрителями, а непрофессиональная охрана никак не могла (да и не старалась) навести порядок.

На сцене все происходило примерно в том же духе. Жалко, но сложилось впечатление, что большинство «модельеров и дизайнеров» имеют весьма приблизительное представление об основах и принципах конструирования одежды, говорить о художественных достоинствах которой и не приходилось. Мода, пусть даже и авангардная, должна быть красивой.

Организаторы явно не придали значения деталям и нюансам — а от этого-то все и рушится. Молодые люди вынуждены были демонстрировать так называемое «Шоу роллер-скейтинг от «Интерпол». Но ездить на роликах по сцене неровной, покрытой непонятными предметами — попросту опасно для жизни.

Между частями программы были очень длинные перерывы, оформить которые веселыми и приличными шутками ведущий не мог. Запоздав с началом фестиваля на полчаса, организаторы вынуждены были закругляться в ускоренном темпе — и в результате заключительные музыкальные выступления были просто скомканы. Учитывая, что цена билета была весьма высока — 90.000 рублей, — к зрителям устроители мероприятия отнеслись непорядочно. А непорядочность никогда не была в моде.

**Василий АЛЕКСАНДРОВИЧ**

# Беларускі «Фаўст»

*Вяртанне забытай оперы*

**Заўтра, 22 траўня, у Канцэртнай зале філармоніі прагучаць фрагменты оперы «Фаўст», якую ў 1831 годзе напісаў наш зямляк Антоні Генрык Радзівіл.**

Амаль невядомая творчасць А.Г.Радзівіла будзе прадстаўлена публіцы дзякуючы намаганням «Беларускай капэлы». Гэты музычны калектыў, акрамя канцэртнай дзейнасці, плённа вядзе даследаванні ў галіне гісторыі беларускай музычнай культуры. Шэдэўры старадаўняй беларускай музыкі цяпер зноў можна пачуць на рэгулярных фестывалях «Адраджэнне беларускай капэлы» і ў адмысловых радыёперадачах. Опера «Фаўст» — новае адкрыццё, якім у «Беларускай капэле» сапраўды ганарацца.

Па словах музычнага рэдактара «Беларускай капэлы» Наталлі Собалевай, калектыў проста ў захапленні ад оперы Радзівіла. *«Мы адчуваем сябе першаадкрывальнікамі, такімі ж, як Мендэльсон, які на пачатку XIX стагоддзя вярнуў у музыку забытае імя геніяльнага Баха»,* — гаворыць Н.Собалева.

Антоні Генрык Радзівіл звярнуўся да драматычнага сюжэта славутай паэмы Гётэ яшчэ пры жыцці вялікага нямецкага паэта. Гётэ паставіўся да ідэі кампазітара прыхільна і нават напісаў для оперы дадатковыя фрагменты тэксту. «Фаўст» меў поспех на оперных сцэнах Еўропы ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Аднак з цягам часу твор Радзівіла быў чамусьці пазабыты, і цяпер найбольш папулярнай музычнай версіяй «Фаўста» лічаць лірычную оперу французскага кампазітара Шарля Гуно.

Аднаўленне радзівілаўскай оперы — плён творчай працы многіх людзей. Напісаная па-нямецку, цяпер яна будзе гучаць на беларускай мове ў перакладзе Васіля Сёмухі. Канцэртнае выкананне «Фаўста» ажыццяўляюць сімфанічны аркестр і харавая капэла Беларускай тэлерадыёкампаніі, дзе ідзе работа над запісам гэтага твора для фондаў радыё і тэлебачання. А ў перспектыве — здымкі беларускага фільма-оперы «Фаўст».

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

*У СВЕЦЕ*

# Самая дарагая карціна – акварэль ван Гога

**Акварэль Вінцэнта ван Гога «Жніво ў Правансе» хутчэй за ўсё будзе самым дарагім творам мастацтва, прададзеным у 1990-я гады ў Еўропе.**



Аўкцыён павінен адбыцца 24 чэрвеня ў вядомым лонданскім аўкцыённым доме *Sotheby's*. Эксперты ацэньваюць, што падчас торгу кошт гэтага твора славутага галандскага экспрэсіяніста перасягне рысу ў 12 мільёнаў долараў.

Ван Гог намаляваў гэтую карціну ў чэрвені 1988 г., і яна стала па сутнасці эскізам да вялікага алейнага палатна, што знаходзіцца ў музеі ван Гога ў Амстэрдаме. Акварэльны варыянт доўгі час быў невядомы, толькі ў 1948 г. чарговы уладальнік карціны упершыню паказаў яе публічна. Цяпер ананімны спадкаемца вырашыў прадаць акварэль «Жніво ў Правансе» праз аўкцыён.

**М.Н.**

# Святар на ролікавых каньках

**Давід Стрытэр, святар англіканскага касцёла ў Вялікабрытаніі, стараецца заваяваць сімпатыі маладых вернікаў, пераймаючы іх стыль жыцця.**

Штодзень пастар надзяе ролікавыя канькі, пакрывае галаву шапкай-бейсболкай — і кіруецца са свайго дома на працу, у касцёл. Выгляд пастара ў белым святарскім убранні, але на ролікавых каньках выклікае неадназначную рэакцыю вернікаў, але многія аддаюць належнае яго дасціпнасці і адвазе. Сам пастар сцвярджае, што моладзь ацаніла ягоныя навацыі і цяпер яму значна лягчэй весці душпастырскую працу ў сваёй парафіі.

**М.Н.**



# У Пакістане на вяселлях загадалі галадаць

**Нядаўна абраны прэм'ер-міністр Пакістана Наваз Шарыф вельмі арыгінальна вырашае праблему дэфіцыту харчавання ў гэтай азіяцкай краіне.**

Прэм'ер забараніў ужыванне ежы на вяселлях. Ён заявіў, што на вясельнай цырымоніі абсалютна дастаткова гарбаты і прахаладжальных напояў. Пры гэтым кіраўнік пакістанскага ўрада заклікае паспачуваць сем'ям маладых, якія нясуць на сабе цяжар вясельных выдаткаў.

Жыхары Пакістана не раз ужо перажывалі змены ўлады і законаў. Многія лічаць, што новы закон проста вымусіць іх зрабіць вясельныя гасціны таемнымі. За парушэнне «галоднага закону» прадугледжваецца штраф, эквівалентны 8.000 доларам, а для сярэдняга пакістанца гэта сапраўднае багацце.

Некаторыя абвінавачваюць прэм'ера ў тым, што ён зусім не разбіраецца ў жыцці: у такой мусульманска-традыцыйнай краіне, як Пакістан, традыцыі адыгрываюць вельмі вялікую ролю, а багаты стол — гэта частка традыцый, неабходная для прэстыжу сям'і.

У выніку ўвядзення новага закона пацярпелі не толькі маладыя і іх сем'і, але і ўладальнікі вясельнага бізнесу: гаспадары салонаў для святкаванняў, афіцыянты, кухары і нават злодзеі ды жабракі, якія маглі пажывіцца на вяселлях.

Прэм'ер-міністр Шарыф не першы, хто наводзіць парадак у Пакістане падобным чынам. У пачатку 80-х гадоў генерал Зія Ульхак стаў пачынальнікам так званай «эпохі штучнай ежы». Паводле ўведзенага генералам закона аб шлюбе, замест сапраўдных страваў на вясельных сталах мусілі стаяць муляжы. Але, на радасць пакістанцаў, гэты закон праіснаваў толькі каля года — яго адмянілі, бо выканаць патрабаванні было немагчыма: дзе ж узяць столькі муляжоў?

**Дзмітрый ДАРОХІН**





© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 36.610
Нумар падпісаны ў друк 20.05.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 305